ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 17 (2315) 29 красавіка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

## ДЗЕ СІЛА, ТАМ І ПРАЎДА

**Старшыня Рады БНР доктар Язэп Сажыч, які жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі, быў у Мінску госцем на святкаванні 75-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, падарожнічаў па Беларусі, наведаў родную Навагрудчыну. Напрыканцы свайго гасцявання завітаў ён і ў "Голас Радзімы". Прапануем чытачам гутарку спадара Язэпа САЖЫЧА з карэспандэнтам газеты Дзіянай ЧАРКАСАВАЙ.**

**— Спадар Сажыч, як успрынялі вы сённяшнюю незалежную Беларусь? Ці бачыце перадумовы для стварэння сапраўды дэмакратычнай дзяржавы? Ці ёсць кіраўнік або калектыўны кіруючы орган, якому вы маглі б перадаць сёння свой мандат старшыні?**

— Мандат пакуль што перадаць няма каму. Перажыў жа я тут і радасць, і смутак, аднак лічу, што ў песімізм упадаць не трэба. Гісторыя назад не вернецца, і Беларусь, хоць і марудна, але будзе рухацца па шляху адраджэння.

**— Беларусь знаходзіцца ў цяжкім эканамічным становішчы. Як, на вашу думку, зможам мы выйсці з яго самастойна ці спатрэбіцца нам дапамога звонку, эканамічны і іншыя саюзы?**

— Ніхто ніколі не карміў беларусаў і цяпер не збіраецца гэтага рабіць. Любы ваенны саюз толькі абцяжарыць і без таго нялёгкае становішча краіны. Утрымліваць і карміць армію, ды яшчэ не толькі сваю, страшэнны цяжар для народа.

Беларусі не хапае добрых кіраўнікоў, сапраўдных беларусаў, што дбалі б пра край і народ, а не пра свае асабістыя справы. Я глядзеў на бязмежныя нашы палі і дзівіўся, чаму мы збожжа прывозім з Казахстана...

**— А бульбу з Італіі...**

— Ну вось бачыце, гэта ж суцэльны парадокс. Цяперашнія кіраўнікі замест таго, каб паляпшаць, гамуюць дабрабыт у краіне, быццам імкнуцца, каб народ быў незадаволены тым адраджэнскім працэсам, які адбываецца.

**— І каму гэта, на вашу думку, можа быць патрэбна?**

— Мусіць тым, хто хоча, каб народ зноў пайшоў на пераварот, хто імкнецца давесці, што суверэннасць і незалежнасць беларусам не патрэбны, што менавіта праз іх мы церпім матэрыяльна, эканамічна. Я разумею, людзі тут так выхаваны, што на цяперашнім этапе яны няздольныя самі пра сябе клапаціцца, праявіць ініцыятыву, бо ўзгадаваны на тым, што хтосьці за іх думае.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

## ПАКУТНІК ЗА БЕЛАРУСКУЮ ІДЭЮ

Недзе паміж 1893—1895 гадамі дванаццацігадовы Янук Луцэвіч жыў на былым хутары Радзькаўшчына каля вёскі Мачаны (цяпер гэты хутар — вёска на беразе вадасховішча Вяча Лагойскага раёна Мінскай вобласці) у сваёй цёткі Садаліі Дамашэвіч. Побач быў фальварак Івана Самойлы, дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча. Вось там будучы паэт Янка Купала пазнаёміўся з сынам дырэктара, гімназістам Уладзімірам, старэйшым за яго на чатыры гады. Уладзімір з Казіміраўкі (адзін са шматлікіх псеўданімаў Ул.Самойлы) прыкмеціў здольнага хлопчыка, які цягнуўся да асветы, і ўзяўся падрыхтаваць яго да паступлення ў Мінскае рэальнае вучылішча.

Уладзімір Самойла — крытык, публіцыст, філосаф, журналіст, урэшце яшчэ і паэт у расійскай мове — да сваіх пярэбараў у Заходнюю Беларусь ( 1919) быў пісьменнікам "на мяжы дзвюх культур" — расійскай і беларускай: з першай яго звязвалі выхаванне і адукацыя ў сям'і абруселага службоўца "заходнерускага" памяркоўна-ліберальнага кірунку; з другой — генетычная памяць і спагадлівая паэтычная душа, што не магла застацца ў баку ад самаахвярнага адраджэнскага руху. Спачатку ён падтрымліваў нацыянальнае прабуджэнне свайго народа з лагера мясцовай "рускай" дэмакратыі, вітаў першыя беларускія газеты і паэтычныя кніжкі, па-свойму адкрыў Янку Купалу. Пазней, у віленскія гады жыцця, ён сам — прарок нацыянальнага Адраджэння і па сутнасці генератар ідэй беларускага радыкальна-дэмакратычнага друку.

Польскі гісторык Аляксандра Бергман у грунтоўным артыкуле "Уладзімір Самойла-Суліма і беларуская праблема ў Польшчы перыяду міжваеннага дзесяцігоддзя" (1983) чамусьці называе Ул. Самойлу "рускім літаратурным крытыкам і публіцыстам, ураджэнцам Беларусі", хоць не прыводзіць доказаў, што сведчылі б аб расійскім радаводзе ягонай сям'і, альбо выказванняў пісьменніка пра яго самаідэнтыфікацыю з расійскім народам. На самай жа справе Самойла да пераезду ў Вільню пачуваў сябе беларусам у рускай культуры, а ў Заходняй Беларусі канчаткова сфармаваўся як беларускі адраджэнец, радыкальны прыхільнік нацыянальнага самавызначэння народа.

У 80-х гадах мне прыйшлося даследаваць рускамоўны друк Беларусі (апублікавана толькі першая частка гэтага даследавання ў кнізе "Праблемы мастацтва і эстэтыкі ў грамадскай думцы Беларусі пачатку XX ст."), у тым ліку бліскучыя артыкулы Ул.Самойлы ў газеце "Минский курьер" (1908). Нядаўна па ініцыятыве рэдакцыі часопіса "Нёман" я апублікаваў у перакладзе на расійскую мову выдатнае літаратурна-філасофскае эсэ Сулімы (Ул.Самойлы) "Гэтым пераможаш! (Нарысы крытычнага аптымізму)".

Уладзімір Самойла нарадзіўся 17 (29) студзеня 1878 года ў сям'і мясцовага педагога і грамадскага дзеяча Івана Самойлы ў Мінску і быў другім дзіцем, меў двух братоў і сястру. Паводле справаздачы пра стан мінскай гімназіі за 1897—1898 год, якую знайшоў у архівах Арсень Ліс, атэстат сталасці Уладзімір атрымаў летам 1898 года і заявіў пра жаданне вывучаць медыцыну ў Маскоўскім універсітэце. Вучыўся на медыцынскім факультэце Пецярбургскага універсітэта, але пакінуў яго на чацвёртым годзе. Прафесійным лекарам ён, здаецца, не быў. Пра гэта сведчыць апублікаваны ў газеце "Беларусь" (1919, 21 лістап.) "спіс N 4 кандыдатаў у галосныя Гарадскога Савета ў Мінску", дзе другім значыцца "Самойла Уладзімір, настаўнік хіміі".

Пазней у сваіх "віленскіх" публікацыях ён называў сябе славістам і сапраўды быў адным з самых кампетэнтных знаўцаў расійскай, беларускай, польскай, чэшскай культуры. А яшчэ быў ён бліскучым журналістам-публіцыстам і літаратурным крытыкам. Даследчыкі, здаецца, не зафіксавалі яго супрацоўніцтва ў газеце "Северо-Западный край" М.Мысоўскага.

**(Працяг на 7-й стар.).**





**Доўгачаканая падзея адбылася: прайшла прэзентацыя новага комплексу Мінскага харэаграфічнага вучылішча. Гэта пацяшае, таму што не вельмі часта ў апошнія гады з'яўляюцца новыя ўстановы культуры, а галоўная радасць — будучыя зоркі беларускага балета атрымалі цудоўны будынак з добра абсталяванымі танцавальнымі класамі, глядзельную залу, інтэрнат. На адкрыцці комплексу прысутнічалі госці з розных краін СНД.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ*

Міжнародная Асацыяцыя па медыцынскай тэхніцы (ІАМТ) аб"ядноўвае на добраахвотнай і раўнапраўнай аснове больш за 50 прадпрыемстваў, арганізацый і фірм розных краін, у тым ліку і Рэспублікі Беларусь. Хаця ІАМТу няма яшчэ і года, але яна паспела ўжо заваяваць аўтарытэт. За гэты час наладжаны шырокія кантакты з установамі аховы здароўя і вытворцамі медыцынскай тэхнікі многіх дзяржаў свету.

Упершыню ў сваёй біяграфіі асацыяцыя правяла міжнародную выстаўку ў Мінску "Медтэхніка-93". Цікавасць да яе была вялікай. Аб гэтым сведчыць той факт, што ўдзел у ёй прынялі каля 30 вядучых заходніх фірм — ЗША, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Германіі, Аўстрыі, Вялікабрытаніі і інш., — а таксама прыкладна 60 фірм з краін былога Саюза. Коратка аб выстаўцы можна сказаць, што галоўнай яе мэтай стала дэманстрацыя дасягненняў навукі і тэхнікі ў галіне аховы здароўя. Вучоныя, урачы змаглі пазнаёміцца з навінкамі медыцынскага машынабудавання, заключыць кантракты на набыццё гэтай тэхнікі, а таксама абмяняцца апошнімі распрацоўкамі методык прымянення абсталявання і медыцынскіх тэхналогій.



У выставачным комплексе "Мінскэкспа" не староннімі назіральнікамі былі прадпрыемствы Рэспублікі Беларусь. Напрыклад, оптыка-механічнае аб"яднанне БелОМА шырока прадставіла акулярную оптыку, лазерныя і хірургічныя ўстаноўкі, іншую апаратуру, якая, калі і ўступала замежнай, то толькі хіба ў дызайне.

НА ЗДЫМКУ: адзін са стэндаў выстаўкі.

*ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА*

## НАЗНАЧАНЫ АПОСТАЛЬСКІ НУНЦЫЙ

Папа рымскі Іаан Павел II назначыў Яго Прэасвяшчэнства архіепіскапа Габрыэля Мантальва апостальскім нунцыем у Рэспубліку Беларусь.

Архіепіскап Габрыэль Мантальва нарадзіўся ў горадзе Багата (Калумбія) 27 снежня 1930 года. У 1953 годзе быў пасвечаны ў сан каталіцкага свяшчэнніка епархіі горада Багата. Мае ступень доктара ў галіне кананічнага права.

У 1957 годзе паступіў на дыпламатычную службу найсвяцейшага прастола, працаваў у папскіх нунцыятствах Балівіі, Аргенціны, Сальвадора. З 1964 па 1974 гады — у Дзяржаўным сакратарыяце найсвяцейшага прастола ў Ватыкане, дзе займаўся ўсходнееўрапейскімі справамі.

У 1977 годзе назначаны папскім нунцыем у Гандурас і Нікарагуа, затым у Алжыр і Туніс. А з 1986 года — у Югаславію.

Архіепіскап Габрыэль Мантальва валодае французскай, англійскай, італьянскай і нямецкай мовамі.

*РЭЙТЫНГ*

## ПОГЛЯД РУСКІХ

Расійскі фонд "Грамадская думка" правёў апытанне сярод жыхароў рэгіёнаў Расіі аб адносінах грамадзян Федэрацыі да рэспублік былога Саюза.

Разам з Расіяй у новай саюзнай дзяржаве хацелі б бачыць: усе рэспублікі — 37 працэнтаў апытаных; Украіну — 24 працэнты; Беларусь — 23; Казахстан — 12. За кожную з астатніх рэспублік выказаліся 5 і менш працэнтаў рэспандэнтаў. Акрамя таго, па звестках БелаПАН, шостая частка ўсіх апытаных лічыць, што "не трэба ні з кім аб'ядноўвацца".

Як бачым, "рэйтынг" Беларусі — ледзь ці не самы высокі.

*ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ*

## Алесь БАРСКІ — ПРАФЕСАР БДУ

Вядомаму даследчыку гісторыі беларускай літаратуры і фальклору, беларускаму паэту з Польшчы Аляксандру Баршчэўскаму (Алесю Барскаму) за выдатныя дасягненні ў даследаванні і распаўсюджванні навуковых ведаў пра Беларусь і беларускую літаратуру нададзена званне ганаровага прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Неаднойчы выходзілі на роднай А. Барскаму Беласточчыне яго кнігі вершаў, а дзве з іх "Мой бераг" і "Лірычны пульс" — у Мінску. У мінскім выдавецтве "Мастацкая літаратура" выдадзена і кніга ягонай публіцыстыкі "З бачанага і перажытага".

Перакладчыцкая дзейнасць А. Барскага дала магчымасць польскаму чытачу пазнаёміцца з беларускімі казкамі: у 1973 і 1976 гадах выйшлі зборнікі "Д'яблава скрыпка" і "Невычэрпны збан". Паэт, перакладчык і вучоны А. Баршчэўскі ўзначальвае кафедру беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

*З ДАПАМОГАЙ НЕМЦАЎ*

## НА ЎСЯКІ СТЫХІЙНЫ ВЫПАДАК

Цэнтральны Камітэт Таварыства Чырвонага Крыжа Беларусі прыступіў да стварэння ўласнай базы для аказання дапамогі насельніцтву ў выпадку стыхійных бедстваў. У бліжэйшы час на тэрыторыі рэспублікі будзе створана сетка складаў з запасамі прадуктаў харчавання і медыкаментаў. Фінансуе гэта мерапрыемства Таварыства Чырвонага Крыжа Германіі, якое ўжо выдзеліла на гэтыя мэты 60 тысяч нямецкіх марак.

*НА ПАРОЗЕ 100-годдзя*



Сто гадоў адзначыць сёлетняй вясной брэстаўчанін Аляксандр Міхальчук. Амаль семдзесят пройдзена побач з Фаінай Іванаўнай. Пяць дзяцей, восем унукаў, сем праўнукаў скрасілі гэты доўгі і далёка не заўсёды лёгкі шлях. Любоў, вернасць, узаемаразуменне дапамаглі ўстаяць пры ўсіх жыццёвых выпрабаваннях.

НА ЗДЫМКУ: старэйшыя жыхары Брэста Аляксандр і Фаіна МІХАЛЬЧУКІ.

*ГІСТОРЫЯ РУХУ*

## ЦІ ВЕРНЕЦЦА АРХІЎ?

Палкоўнік арміі ЗША, вынаходца апаратаў для касмічных даследаванняў Аляксей Захар'ін, які нядаўна наведаў Мінск, у час сустрэчы з кіраўніцтвам Саюза скаўтаў Беларусі гаварыў аб магчымасці перадачы нашай скаўцкай арганізацыі вялікага архіва, у якім знаходзяцца дакументы пра дзейнасць беларускіх скаўтаў да 1927 года, а таксама матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі.

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН старшыня Саюза скаўтаў Ігар Касцевіч, дасягнута дамоўленасць аб перадачы Беларусі спачатку копій архіўных дакументаў, у тым ліку тых, якія ўтрымліваюць звесткі пра месца, дзе схаваны тагачасныя атрыбуты беларускіх скаўтаў. І калі пазней А. Захар'ін пераканаецца, што цяперашні Саюз скаўтаў — гэта якраз тая арганізацыя, з якой можна мець справы, то ён будуць перададзены і арыгіналы дакументаў.

*ПРАЦЯГЛЫ КОНКУРС*

## А ГІМНА ПАКУЛЬ НЯМА

У спецыяльных праграмах радыё і тэлебачання зноў загучаць музычныя творы, што прэтэндуюць на званне нацыянальнага Гімна Рэспублікі Беларусь.

Як адзначыў старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Ніл Гілевіч, крыўдна, што ў суверэннай рэспубліцы да сёння няма свайго гімна. І ўдвая непрыемна, што вядомыя паэты праяўляюць незразумелую апатыю да такога роду творчасці.

У праграмах, што рыхтуюцца беларускай тэлерадыёкампаніяй, прагучыць і музыка з "Палацкага сшытка". І, калі яе адобрыць большасць слухачоў, камісія мае намер правесці яшчэ адзін конкурс, але ўжо сярод вядомых беларускіх паэтаў на лепшы тэкст.

*ЭМІГРАНЦКІ ДРУК*

## "БЕЛАРУС" У МІНСКУ

Упершыню за 42-гадовую гісторыю свайго існавання выйшла на Беларусі самае вядомае выданне нашай эміграцыі ў свеце — газета "Беларус". У ЗША (у Нью-Йорку) яе выпускае Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне, а рэдагуе калегія пад кіраўніцтвам вядомага навукоўца і пісьменніка, аднаго з лідэраў нашай дыяспары ў Амерыцы Янкі Запрудніка.

Сакавіцкі нумар газеты аддрукавала і распаўсюджвае незалежная выдавецкая кампанія "Тэхналогія". Набыць "Беларус" можна ў Мінску, у кіёсках Таварыства беларускай мовы, "Выбранецкіх шыхтоў", а таксама ў Задзіночанні беларускіх студэнтаў.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

СІСТЭМУ барацьбы з ракавымі захворваннямі драўняных раслін з аслабленай у выніку чарнобыльскай радыяцыі імуннай устойлівасцю ўдалося распрацаваць Юрыю Смаляку. Ён з'яўляецца навуковым супрацоўнікам Цэнтральнага батанічнага сада Акадэміі навук Беларусі. Па гэтай тэме абараніў доктарскую дысертацыю.

АДБЫЛОСЯ ўзнагароджанне лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь першымі нацыянальнымі знакамі, якія выраблены на манетным двары Санкт-Пецярбурга. Знакі чатырох варыянтаў — з выявай "Пагоні", Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кастуся Каліноўскага. Аўтар эскізаў — малады скульптар Алесь Дранец.

ЯК ПАВЕДАМІЛІ ў міжнародным аддзеле Акадэміі навук Беларусі, у 1992 годзе акадэмія пазбавілася каля 900 таленавітых вучоных. Дактары навук, кандыдаты пакідаюць рэспубліку і едуць шукаць шчасця ў ЗША, Англію, Ізраіль і нават на Тайвань. Прычына эміграцыі адна: цяжкасці сённяшняга жыцця, бесперспектыўнасць.

БОЛЬШ 12 тысяч жыхароў Беларусі нелегальна працуюць сёння ў Польшчы і іншых замежных краінах. Па прагнозах, да канца года на заработкі за мяжу выедуць яшчэ да 40 тысяч чалавек. Заработная плата беларусаў у 10 разоў ніжэйшая, чым палякаў, а працуюць яны на самых цяжкіх работах.

РАДАВЫ міліцыянер першага года службы ў Беларусі атрымлівае штомесяц 26 тысяч 400 рублёў, на 200 рублёў болей — сяржант. Кожны год службы зарплата павялічваецца на 5 працэнтаў. Самая вялікая заработная плата ў міністра ўнутраных спраў рэспублікі Ягорава: ён атрымлівае каля 100 тысяч рублёў у месяц.

З 20 КРАСАВІКА зноў "узляцелі" цэны — падаражэла мяса і мясныя вырабы: свініна ў 1,9 раза, ялавічына — у 1,7 раза. Кілаграм ялавічыны першага гатунку ў магазінах Беларусі цяпер каштуе 250 рублёў, а свініны — 310 рублёў. Самая нізкая цана за каўбасу—300 рублёў. Столькі цяпер будзем плаціць за кілаграм "Чайнай", якая не так даўно яшчэ каштавала крыху больш за паўтара рубля.

У 1992 ГОДЗЕ ў Мінску скончылі жыццё самагубствам 275 чалавек. Амаль усе яны людзі адзінокія. Кожны пяты самагубца беспрацоўны, кожны трэці рэзлічыўся з жыццём у стане алкагольнага ап'янення.

СЫН рабочых завода "Оптык" Мікалая і Галіны Казаковых, які нарадзіўся напярэдадні Вялікадня, стаў 100-тысячным жыхаром горада Ліды. За апошнія 20 гадоў насельніцтва Ліды падвоілася. Па колькасці жыхароў Ліда займае другое месца ў вобласці пасля Гродна.

# ЗВАРОТ
## ДА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Напярэдадні склікання Першага з'езда беларусаў свету Рада Згуртавання беларусаў свету і яе Аргкамітэт звяртаюцца да вас, нашчадкаў народа з тысячагадовай гісторыяй, якому наканавана было атрымаць у мінулым вялікія перамогі, стварыць і разбудаваць адну з наймагутных еўрапейскіх дзяржаў — Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. У той час, дзякуючы такім выдатным прадстаўнікам народа, як Вітаўт Вялікі, Леў Сапега, Францішак Скарына, былі дасягнуты сусветна прызнаныя здабыткі на ніве дзяржаўнай, духоўнай, палітычнай і гаспадарчай. Потым, на жаль, прыйшоў заняпад, і народ наш зазнаў самую вялікую бяду — страту ўласнай дзяржаўнасці, у выніку чаго змушаны быў стагоддзі гібець пад уціскам, выхоўвацца ў пагардзе да роднай мовы, культуры, сваіх старадаўніх традыцый і звычаяў.

Аднак лепшыя прадстаўнікі народа ніколі не мірыліся з паняволеным становішчам і раз за разам паўставалі на абарону нацыянальных інтарэсаў, годнасці, імкнучыся аднавіць страчаную дзяржаўнасць. Платай ім за гэта былі вязніцы, вісельні і выгнанні ў далёкія сібірскія губерні.

Ратуючыся ад палітычных ганенняў, беднасці і нястачы, нашы продкі змушаны былі і самахоць пакідаць мілую іхняму сэрцу Беларусь і шукаць прытулку ў далёкіх краях. Але і там, на чужыне, выяўлялі свае здольнасці, станавіліся, як Старшыня Сената на Гавайскіх астравах Мікола Судзілоўскі, ці як годна ўшанаваны ў Чылі Ігнат Дамейка, ці французскі паэт Гіём Апалінэр (Каствравіцкі), першымі людзьмі ў іншанацыянальным асяроддзі.

Найбольш блізка да сваёй мэты нашы продкі падышлі ў 1918 годзе, калі быў скліканы Першы Усебеларускі Кангрэс і ўтвораныя на ім паўнамоцныя прадстаўніцтвы волю народа аб'явілі аб стварэнні незалежнай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак Беларусь 75 гадоў назад не здолела змабілізаваць свае сілы, абараніцца ад чужацкіх навалаў і захлынулася ў бальшавіцкім пераваpоце, яе адзінства было распалавінена несправядлівымі ўмовамі Брэсцкага і Рыжскага міру, вялікія абшары з этнічным беларускім насельніцтвам у якасці платы перададзены іншым дзяржавам.

Спробы нацыянал-камуністаў, якія прыйшлі да ўлады ў Савецкай Беларусі і ў пераважнай большасці былі шчыра адданымі ідэі адбудовы Бацькаўшчыны, увесь час натыкаліся на імперскі ўціск, супрацiў і ўрэшце і для саміх, і для ўсёй падсавецкай часткі нашага народа скончыліся трагедыяй масавых знішчэнняў, братнімі магіламі вядомых і безыменных Курапат. Ва ўнісон з імперскай Масквой, хоць і больш "цывілізавана", праводзіла сваю паланізатарскую палітыку ў Заходняй Беларусі Варшава, масава зачыняючы беларускія школы і шырока адчыняючы дзверы перад вязнямі Лукішак, Картуз-Бярозы, Вронак і іншых "асяродкаў выхавання" свядомых беларусаў.

Безумоўна, ідэя адрадзіць Беларусь ва ўмовах другой нямецкай акупацыі, як і ранейшыя спробы нацыянал-камуністаў, была ілюзіяй, але мы не павінны забывацца, што адно і другое патрабавала ад канкрэтных людзей мужнасці, умення сцвярджаць нацыянальную ідэю ў самых цяжкіх умовах таталітарных сістэм і аб'ектыўна спрыяла патрыятычнаму выхаванню новых пакаленняў, падтрымлівала ў народзе ўсё яшчэ нязгаслы агонь веры ў сваё Адраджэнне і непасрэдна спрычынілася да фарміравання на Захадзе свядомай палітычнай эміграцыі, у асяроддзі якой усе пасляваенныя дзесяцігоддзі свята шанавалася нацыянальная сімволіка, памяць пра былую славу, вернасць роднаму слову і ідэі, вера ў тое, што для беларусаў яшчэ загучыць звон нацыянальнага Адраджэння і Уваскрошання.

Сёння лёс падараваў нам яшчэ адзін і, бадай, апошні шанец адрадзіцца як народу і дзяржаве, зноў заняць годнае месца ў еўрапейскай і сусветнай супольнасці. Да гэтага Узыходжання павінны быць далучанымі не толькі грамадзяне Беларусі, але і ўвесь беларускі этнас, незалежна ад месца яго пражывання і рассялення, а таксама прадстаўнікі іншых карэнных нацый, якія адчуваюць трывалую повязь з беларускай зямлёй, з магіламі пахаваных тут продкаў. З улікам набытага сярод іншых народаў вопыту, нашай традыцыйнай працавітасці і разважлівасці, можам мы разам пераадолець цяжкасці дзяржаўнага, духоўнага і гаспадарчага Адраджэння.

У сітуацыі без сваёй дзяржавы, калі БССР не толькі не адстойвала нацыянальныя інтарэсы, а ўсякім чынам ва ўгоду Цэнтру праводзіла палітыку планамернай дэнацыяналізацыі, паслядоўнага размяжавання са свядомай беларускай эміграцыяй, маладому пакаленню беларусаў і на Бацькаўшчыне, і ў замежжы цяжка было ўзгадаваць і ўмацаваць у сабе веру ў Беларускую дзяржаву, у яе Адраджэнне...

Сёння мы маем абвешчаную незалежную Рэспубліку Беларусь, а, значыць, спрыяльныя перадумовы для сапраўднага нацыянальнага Адраджэння.

Наша дзяржава нараджаецца ў вельмі няпростай палітычнай, духоўнай і гаспадарчай сітуацыі, яе ўзмацненне, а заадно і дабрабыт народа бачацца пакуль што ў будучыні. Прыход гэтай будучыні залежыць не толькі ад аб'ектыўных умоў, але і ад нашых асабістых жаданняў, здольнасцяў, настойлівасці і розуму. У працэсе Адраджэння асаблівая роля належыць маладому пакаленню беларусаў, што будзе выхоўвацца ў нацыянальных адукацыйных асяродках на лепшых традыцыях роднай і сусветнай культуры, тэхнічных дасягненнях, спакваля становячыся нацыяй цывілізаваных людзей, пазбаўленых стэрэатыпаў паднявольнага правінцыйнага існавання. Надыдзе час, калі беларусы, дзе б ні жылі, адчуюць сябе часткай адзінага народа з вялікай гісторыяй і перспектыўнай будучыняй.

Ідэя яднання Беларусі з дыяспарай сцвердзіла сябе ў Першым з'ездзе беларусаў блізкага замежжа і, верым, трывала замацуецца ў Першым з'ездзе беларусаў свету, што будзе ў ліпені. Што датычыць моладзі, дык гэтую ідэю хочам мы ўвасобіць і ў своеасаблівым Форуме на возеры Нарач, які збярэ дзяцей як з самой Беларусі, так і з былога Саюза, роднай нам Беласточчыны, іншых замежных краёў.

На працягу двух тыдняў дзеці і моладзь будуць там не толькі дыхаць чыстым, настоеным на красках і баравойігліцы паветрам, купацца ў светлай казцы-мары Нарачы, але і далучацца да духоўных вытокаў роднага народа, зведваць славутыя мясціны Беларусі. У непасрэдным і жывым супольнічанні беларускай моладзі з розных краін будуць завязвацца знаёмствы на цяпер і будучыню, а заадно, спадзяёмся, патрэба і жаданне здольнасці, магчымасці і набыты сярод іншых народаў вопыт прысвяціць Адраджэнню Беларусі, яе будучыні.

**Рада Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Аргкамітэт па скліканню Першага з'езда беларусаў свету і Першага нарачанскага форуму моладзі Беларусі і замежжа.**

**У летніку на Нарачы будуць працаваць беларуска-, англа- і рускамоўныя групы. У групе дзяцей і моладзі з замежнай краіны на 10 чалавек прадбачваецца пры жаданні і адзін дарослы. Запрашаюцца не толькі беларусы, але і прадстаўнікі іншых народаў, што жадаюць далучыцца да духоўнай і матэрыяльнай культуры нашага народа. Побыт, навучанне і экскурсіі бярэ на сябе Беларусь, прыезд — за кошт удзельнікаў. Просім тэрмінова пра колькасць ахвочых удзельнічаць з замежжа ў Нарачанскім форуме паведаміць па тэлефонах Міністэрства адукацыі Беларусі: 20-42-54 ці 20-01-58, ЗБС "Бацькаўшчына" 27-32-38 ці тэл. і факс: 37-05-44.**

**Наш адрас: 220053, Рэспубліка Беларусь, Мінск, Даўгінаўскі тракт, д. 52, кв. 9. Старшыні Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Яўгену Лецку.**

Зварот ухвалены на пашыраным пасяджэнні Рады ЗБС "Бацькаўшчына" 6 лютага 1993 года.

У СУАЙЧЫННІКАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

# АДДАНАЕ СЛУЖЭННЕ РАДЗІМЕ

У Славянскім ліцэі Санкт-Пецярбурга адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя юбілею вядомага дзеяча блізкага замежжа, гісторыка і асветніка Валянціна Пятровіча Грыцкевіча, якому споўнілася 60 гадоў.

Выкладчык Санкт-Пецярбургскага інстытута культуры, публіцыст, аўтар шматлікіх даследаванняў і кніг па гісторыі Беларусі, старшыня Рады БГКТ у СПб, Валянцін Пятровіч сваёй нястомнай працай падае прыклад сапраўднага служэння навуцы, асвеце і культуры роднага краю. Гэтыя тры накірункі — тое галоўнае, чаму прысвяціў сваё жыццё Валянцін Грыцкевіч.

Створаныя ім навуковыя праграмы (лекцыйныя курсы, якія ён чытае ў інстытуце культуры) — "Методыка і тэорыя гістарычнага крыніцазнаўства", "Замежнае гістарычнае крыніцазнаўства", "Новая і навейшая гісторыя сярэдніх і меншых этнасаў Еўропы", "Асноўныя пытанні гісторыі, крыніцазнаўства і гістарыяграфіі Беларусі" і "Гісторыя Беларусі XIX стагоддзя" — маюць каштоўнасць перш за ўсё таму, што Валянцін Пятровіч імкнецца адрадзіць у іх сапраўдны навуковы падыход да пытанняў гісторыі і культуры Беларусі, не засмечаны ні даўнейшымі імперскімі "рэкамендацыямі" часоў царызму, ні "мудрым" кіраўніцтвам часоў сталіншчыны і брэжнеўшчыны.

Спадар Грыцкевіч імкнецца як мага шырэй увесці ва ўжытак у навуковых і студэнцкіх колах той падыход, які адпавядае сучаснаму аб'ектыўнаму погляду і якім даўно карыстаецца ўвесь цывілізаваны свет. І калі ў СПб гэта ўдаецца яму лягчэй, то на Бацькаўшчыне кансерватыўныя колы ставяцца да дзейнасці спадара Грыцкевіча не надта прыхільна.

Але Валянцін Пятровіч лічыць, што ісціна ўсё-такі перамагае, і таму спадзяецца, што зробленае ім у галіне гісторыі, медыцыны і культуры знойдзе свайго адрасата не толькі ў тым горадзе, дзе ён жыве і працуе, але і ў той краіне, дзе ён нарадзіўся.

Плённай бачыцца і грамадска-культурная дзейнасць Валянціна Пятровіча. Створаная па ягонай ініцыятыве беларуская суполка ў Санкт-Пецярбургу налічвае сярод сваіх сяброў людзей розных прафесій і схільнасцяў: мастакоў (Янка Чэрнякевіч, Віктар Сівуха), навукоўцаў (Мікола Нікалаеў, намеснік старшыні Рады БГКТ, загадчык аддзела газет РНБ, Марыся Ткачэнка і Анатоль Разумаў, супрацоўнікі РНБ), спевакоў (Лявон Габрусёнак, выканаўца народных і рэлігійных спеваў), пісьменнікаў (Аўгіння Кавалюк), рабочых (Мікола Антончык), студэнтаў (Вітаўт Драздоў, Даніла Жукоўскі).

Своеасаблівы каларыт беларускаму адраджэнскаму руху ў горадзе на Няве надае той факт, што з самага першага дня ўтварэння суполкі як свае, як родныя ўліліся ў яе нашчадкі славутых асветнікаў Луцкевічаў — Марыя Аляксандраўна Чапялёва, як дачка Маргарыта Пярова і ўнучка Наталля.

Усе яны і сабраліся ў актавай зале Славянскага ліцэя, у якім з гэтага навучальнага года адкрываецца беларуска-ўкраінскі клас, і пажадалі Валянціну Пятровічу здароўя і творчых поспехаў. Павіншаваць юбіляра прыехаў з Гародні дзіцячы фальклорны ансамбль школы-гімназіі N 30 (вучні 3-6 класаў) пад кіраўніцтвам Яўгена Бобрыка.

Пісьмовыя віншаванні прыслалі старшыня Камісіі па адукацыі і культуры Вярхоўнага Савета Беларусі Ніл Гілевіч, беларускае таварыства "Дружба", гродзенскае таварыства "Паходня", Санкт-Пецярбургскае і Гродзенскае навуковыя таварыствы гісторыкаў медыцыны і іншыя ўстановы і асобы.

Не зважаючы на свае шэсцьдзесят, Валянцін Пятровіч захаваў малады імпэт, і было прыемна бачыць гэтага сціплага, але нястомнага працаўніка і чалавека, сэрца якога належыць Радзіме.

**Анатоль КІРВЕЛЬ,**
**сябра Рады БГКТ у СПб,**
**пісьменнік.**

# АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА СУАЙЧЫННІКАЎ

ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!

Як вядома, Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ажыццяўляе доўгатэрміновую праграму выдання твораў гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, якая істотна ўзбагачае рынак літаратуры, прысвечанай беларускаму адраджэнню. Таварыства выпусціла або заключыла пагадненні на 1993 год на выданне шэрагу кніг, сярод якіх такія знакамітыя аўтары, як В. Ластоўскі, А. Смоліч, М. Шчакаціхін, Я. Станкевіч, Н. Гілевіч, А. Цвікевіч, Я. Найдзюк, А. Станкевіч, а таксама зборнікі навуковай беларускай тэрміналогіі, перакладныя слоўнікі і іншая літаратура. Чацвёрты год выходзіць штотыднёвік ТБМ імя Ф. Скарыны "Наша слова".

Аднак развіццё выдавецкай дзейнасці таварыства стрымліваецца ў сувязі з адсутнасцю ў арганізацыі ўласнай выдавецкай базы. Сакратарыят ТБМ звяртаецца ў гэтай сувязі да ўсіх зацікаўленых у справе пашырэння беларускага слова фізічных і юрыдычных асоб з прапановай заснаваць у г. Мінску сумеснае прадпрыемства — друкарню і выдавецкую суполку — дзеля арганізацыі вытворчасці кніг і іншай друкаванай прадукцыі на аснове складзеных сумесна Таварыствам беларускай мовы і іншымі беларускімі арганізацыямі, у т. л. і дзеючымі за межамі Бацькаўшчыны, праграм выдавецкай дзейнасці. Відавочна, і друкаваная прадукцыя гэтага сумеснага прадпрыемства будзе спрыяць задавальненню патрэб у кнігах гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі як грамадзян рэспублікі, так і суайчыннікаў, якія жывуць у іншых краінах свету. Такі падыход заслугоўвае пільнай увагі, зважаючы на тое, што кошт сыравіны, рабочай сілы ў Беларусі значна меншы, чым у большасці краін, дзе друкуюцца беларускія перыядычныя выданні і літаратура. Больш таго, дзеючыя законы аб уласнасці, замежных інвестыцыях і падаткаабкладанні забяспечваюць льготныя ўмовы для выдавецкай дзейнасці на беларускай мове. Дастаткова адзначыць, што з 1993 года Таварыства беларускай мовы вызвалена ад уплаты практычна ўсіх падаткаў, калі наладжаная ім вытворчасць адпавядае статутнай дзейнасці. Сакратарыятам ТБМ зроблены першыя захады для стварэння выдавецкай базы: улады выказваюць згоду на прадастаўленне неабходных вытворчых памяшканняў, забеспячэнне паперай і іншымі матэрыяльна-тэхнічнымі сродкамі. Аднак для набыцця прыдатнага друкарскага і камп'ютэрнага абсталяваннянеабходны валютныя сродкі, якіх улады выдзеліць не могуць, таму заснаваць друкарню ТБМ можа пры той умове, што знойдзецца замежны інвестар.

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны будзе ўдзячны за выказаныя з гэтай нагоды прапановы і парады. Нагадваем, што Сакратарыят ТБМ месціцца па адрасу: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, д. 13. Тэл./факс 331332, тэлефон 332511. Валютны рахунак таварыства N 000700704 у банку Знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь.

Жыве Беларусь і вечна жыве матчына слова!

**Я. ЦУМАРАЎ,**
**галоўны сакратар Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.**

# БЕЛАРУСЫ АРГЕНЦІНЫ



**ГІСТОРЫКА-ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ ПАРТРЭТ НАШАГА СУАЙЧЫННІКА З БЕРАГОЎ РЫО-ДЭ-ЛА-ПЛАТЫ**

*ЧАСТКА II.*

## ЗА АТЛАНТЫКУ ПРАТАПТАНЫМІ СЦЕЖКАМІ

### 1. "НАС ТУТ МНОГА", АЛЬБО ГАВАРЫЛА БАБА ДЗЕДУ: "ЗНОЎ У АМЕРЫКУ ПАЕДУ"

Першая сусветная вайна наслала на Беларусь чарговыя разбурэнні і выпрабаванні: бежанства, нямецкую акупацыю, тыф пасля вяртання, Кастрычніцкую рэвалюцыю, польска-савецкую вайну, два падзелы этнічнай тэрыторыі. А яны, найменш літасцівыя да бездапаможных, каторы раз ператварылі яе гоні ў "прахадны двор Еўропы", у яблык разладу паміж больш ваяўнічымі і амбіцыёзнымі суседзямі.

Не паспела высахнуць чарніла на рабаўніцкім дагаворы, падпісаным паміж тымі ж суседзямі 18 сакавіка 1921 года ў Рызе, па якому да Польшчы адыходзілі землі Заходняй Беларусі амаль з 3,5 мільёнамі чалавек, як мужык-беларус зноўку запрагае эмігранцкіх коней долі-нядолі. Як вядома, яго "замежнаму" земляку з Савецкай Беларусі эмігрыраваць забаранялася.

Па меры таго, як выпарваюцца ў паветра абяцанні-дэкларацыі Рыжскага дагавора аб прадастаўленні беларускай нацыянальнай меншасці магчымасці развіваць родную культуру, мову, як абвастраюцца да крайнасці міграцыйныя фактары — здабытак правядзення цяпер ужо польскімі ўладамі каланіяльнай палітыкі на "крэсах", — расце колькасць выездаў за мяжу.

Запрэгчы коней — запрог і літаральна ў 1922 годзе — ану ж гнаць іх за акіянскі далягляд, на Ла-Плату. Паімчаў селянін па пакатасці зямнога глобуса, уваб-раўшы галаву ў плечы, прэч з хаты з забітымі крыж-накрыж вокнамі. Прэч ад "міграцыйных фактараў", ад смяротнага дыхання другой сусветнай, якая выльецца ў новы апакаліпсіс для яго землякоў.

На сталае пасяленне — не выключаючы і часовых выездаў, — апрача Аргенціны, выбіраліся, як і раней, у ЗША, Канаду, Францыю, Парагвай, Уругвай, Бразілію. На сезонныя заробкі — у Латвію, Эстонію, Данію, Бельгію.

На пачатку перасялення ў Аргенціну ўдзельная вага беларусаў у ім была невялікай. Скажам, у 1922, 1923, 1924, 1925 гадах краіна срэбра прыняла 3,3 тысячы, 5,9 тысячы, 5,6 тысячы, 8,8 тысячы жыхароў рознай нацыянальнасці II Рэчы Паспалітай. "Статыстыка працы" Польшчы падлічыла, зводзячы ў адну рубрыку беларусаў і ўкраінцаў, што ў 1926 — 1938 гадах у Аргенціну з Заходняй Беларусі і Украіны перабраліся 50 тысяч асобаў. Як і пры цары, за пункт падліку бралася веравызнанне. Да таго ж у гэтай суме не знаходзіць месца ладная колькасць беларусаў, што праўдамі ці няпраўдамі пяройдуць затым з Парагвая. (А там варункі каланізацыі, клімат былі дужа складанымі). Як, напрыклад, сям"я Свібовічаў з вёскі Харытоны Валожынскага раёна. І тысячы іншых на яе падобных.

Відавочна, бліжэй да ісціны падышлі аўтары "Белорусского иллюстрированного календаря", друкаванага органа беларускіх арганізацый у Буэнас-Айрэсе (яго старонкі мы неаднойчы падчас гэтай работы над партрэтам беларуса-эмігранта будзем гартаць). Яны той думкі, што за 1925 — 1939 гады ў Аргенціну перабраліся 50 тысяч беларусаў.

С.Філютовіч, які выехаў з сяла Вялікая Кракотка Слонімскага раёна, расказваў у лісце на радзіму: "Нас тут многа. З вёскі Юндлевічы Пінскага ваяводства 10 сем"яў. Многія прыехалі з мястэчка Азярніца і з ваколіц Навагрудка".

Міграцыйны пік прыходзіцца на Беларусь у перыяд 1926 — 1930 і 1936 — 1938 гадоў. Спад — на пару сусветнага эканамічнага крызісу 1930 — 1933. Найгусцейшая чалавечая хваля адчаліла ад бацькоўскай прыстані ў 1929 годзе.

Польшча ўсямерна заахвочвала перасяленне на пастаяннае замежнае жыхарства, імкнучыся зменшыць сацыяльна-палітычную напружанасць гэтым нядрэнным "выпускным клапанам", вырашыць унутраныя пытанні занятасці, садзейнічаць распаўсюджванню мэтанакіраванага польскага ўплыву на Аргенціну. Вымыванню беларускай нацыі з Бацькаўшчыны і аселасці на чужыне прызвана была спрыяць і тактыка тармажэння звароту імігрантаў дадому-дахаты.

Адразу пасля аднаўлення польскай дзяржаўнасці ў 1918 годзе фарміруецца сетка дзяржаўных і грамадскіх інстытуцый, якія непасрэдна прычыняюцца да выкanання міграцыйнай палітыкі. З гэтага ж года зачынае работу Дзяржаўны аддзел па справах палонных, імігрантаў і працаўнікоў. Дастаткова было выявіцца першым прыкметам эканамічнай эміграцыі, як яна неадкладна бярэцца пад кантроль Дзяржаўнымі аддзеламі пасрэдніцтва працы. Крыху пазней пры Міністэрстве працы і сацыяльнага забеспячэння Польшчы ствараецца эміграцыйны аддзел і секцыя эканамічнай эміграцыі, каторыя сумесна з Міністэрствам замежных спраў і Міжміністэрыяльнай камісіяй па справах эмігрантаў выпрацоўваюць законапраекты, супрацьдзейнічаюць нелегальнай вярбоўцы і г.д.

Пры ўрадзе працуе Дзяржаўная эміграцыйная Рада, у Сейме — Сеймавая, у Сенаце — Сенацкая камісія. Каб выбіць глебу з-пад ног падпольнага бізнесу (а ён буйнымі кветкамі зацвітаў у сферы марскіх перавозак шукальнікаў хлеба і працы), арганізуецца эміграцыйны сіндыкат, дзе ўдзельнічаюць і фінансавыя фонды дзяржавы, і складкі параходстваў ды прыватных кампаній.

Беларускімі імігрантамі на берагах срэбранай рэчкі займаецца консульская служба МЗС Польшчы і Варшаўскае міжнароднае асадніцкае таварыства, якое кантралявала 50 працэнтаў акцый польскіх каланізацыйных таварыстваў у Аргенціне і Бразіліі.

Наш знаёмы, аўтар "Радаў для эмігрантаў" Язэп Акаловіч заняў ужо пасаду кіраўніка Польскага эміграцыйнага таварыства. Яно даводзіць да насельніцтва інфармацыю аб выездах за мяжу, аказвае гасцінічныя паслугі кандыдатам у эмігранты, выпускае для іх часопіс.

Меў свой пэўны "пляц" ва ўсёй гэтай сістэме і Варшаўскі інстытут навуковых даследаванняў эміграцыі і каланізацыі (яшчэ з часоў, што папярэднічалі першай сусветнай вайне). І працаваў, відаць, няблага. Бо быў улічаны, прааналізаваны і практычны вопыт першай хвалі. Сярод іншага і справы сардэчныя, сямейныя. Каб бабылі не павярнулі назад з прычыны адсутнасці ў Аргенціне спадарожніц жыцця і кахання, аб выездзе жанчын за мора-акіян клапацілася Аб"яднанне маладых кабет. А таксама Польскі камітэт барацьбы з гандлем жанчынамі і дзецьмі. Была і такая з"ява, аказваецца. Так ці інакш, але ў Аргенціне з агульнай колькасці 127 тысяч эмігрантаў з Польшчы 44,5 тысячы прыпадала на прыгожы пол.

У міжваенны гістарычны прамежак аргенцінская іміграцыйная палітыка не вызначалася актыўнасцю. У сіле і дзеянні знаходзіўся той жа іміграцыйны закон ад 1876 года. Аднак яго ранейшы ліберальны змест падпаў пад сур"ёзныя абмежаванні. І за ўзор быў узяты прыклад ЗША (там у 1921 годзе прымаецца закон А.Джонсана, т.зв. першы "Квотны акт". У 1924-м — другі закон А.Джонсана і г.д.). З другой паловы 20-х і Аргенціна намагаецца ўвесці "квоты", колькасна скарачаючы замежную іміграцыю. У 1931 годзе вольны ўезд абмяжоўваецца. У 1936-м дазваляецца толькі "на зямлю". А яшчэ праз два гады наогул забараняецца, за выключэннем запрашэння сваякоў.




Беларускія календары

### 2. СЯЧЭ ЯСЬ ТАКУАРУ

Селянін з Палесся ці Панямоння, галоўная рухаючая сіла і другой хвалі эміграцыі, праз пару дзён побыту ў буэнас-айрэскай гасцініцы для эмігрантаў на пяць тысяч месцаў, накіроўваўся ў калоніі-пасяленні "Саэнс Пенья", "Вілья Берет", "Гуарані" і інш., што знаходзіліся ў неабжытых, аддаленых правінцыях. Такіх, як Чака, Місіонес, Фармоса, Катамарка. І, не маючы "ні кала ні двара", апынаецца сам-насам з субтрапічнай Амерыкай, дзе, як выказаўся аднойчы адзін з аргенцінскіх прэзідэнтаў, спрадвеку кружаць адны толькі птушкі. Наймаўся на работу, куды бралі. Сілкаваўся танным валовым тлушчам, ашчаджаючы кожнае сентава. І хутка выкупляў свае 50 гектараў зямлі, сціплую па аргенцінскіх памерах плантацыю, "чакру", як яе там называлі.

Урэшце спаўняў "пан сахі і касы" нязбыўную на радзіме, запаветную мару — стаў гаспадаром, новаспечаным "чакарэра", паўднёваамерыканскім землякобам-плантатарам!

Так, зямля выкуплялася за сімвалічную цану. Але менавіта ў самых глухіх і далёкіх кутках. Прастора вакол гарадоў, бліжэй да портаў, была распрададзена, занята і агароджана яшчэ з XIX стагоддзя.

Недзе трэць перасяленцаў атрымлівае зямлю ва ўласнасць. Частка арандуе, хто-колечы прысвячае сябе камерцыі. Шмат людзей працуюць сезоннымі рабочымі на зборы кукурузы, пшаніцы, ільну. За мех кукурузных пачаткаў фермер плаціў 45—50 цэнтаў. А ў дзень збіралі па 5 — 6 мяшкоў. Смачная кашка, ды зарабляць цяжка...

Каланіст з Беларусі апантана карчуе трапічную сельву-джунглі. Сячэ непралазнае зялёнае павуціннe, якое сплятала паміж стогадовых дрэў ліяна-такуара і калюча-кашчавы бамбук, адваёўвае ў яго палянку-пятачок, каб уціснуць туды хатку ці ранча. І часта не мае для гэтага самых прымітыўных прыладаў працы. Сякера і піла ператвараюцца ў бясцэнную каштоўнасць.

У правінцыі Чака вырошчвалі беларусы нязвыклую для сваёй хлебаробскай традыцыі цеплалюбівую бавоўну. С.Іванюк так распавядаў у імігранцкім друку пра жыццё суайчыннікаў у калоніі "Лас Брэньяс": "Многія трапілі ў малаабжытыя лясы. Жывуць на вялікай адлегласці адзін ад аднаго. Ад жытла да горада даводзіцца ісці пяшком па 60 — 70 кіламетраў. У такім становішчы жыве больш тысячы сем"яў. Працаваць прыходзіцца пад пякучым сонцам. Але асабліва цяжка вырошчваць бавоўну. Калі бавоўна паспявае, пакупнікі збіваюць цану, і ўся праца часта прападае дарма. Мы вымушаны браць пазыку ў тых жа пакупнікоў. А яны патрабуюць вялікія працэнты..."

У правінцыі Місіонес нашы суайчыннікі культывавалі найчасцей парагвайскі чай "йерву" і тытунь. "Йерва" давала высокія ўраджаі. Тытунь не заўжды знаходзіў збыт, дый дужа працаёмкая гэта культура. На адзін гектар трэба было ўручную дагледзець 10 — 12 тысяч сцёблаў.

У 1936 годзе правінцыяльны ўрад пад націскам буйных плантатараў-латыфундыстаў, якія імкнуліся падтрымліваць высокія цэны на прадукцыю, прымае закон аб забароне саджаць "йерву". А тут яшчэ засуха... І рынуліся беларускія і ўкраінскія "чакарэрас" на дэманстрацыю-пратэст. Маршам пайшлі на гарадок Абера, дзе іх сустрэлі кулі паліцэйскіх. Загінуў Іван Мельнік, Мікола Аліферчук. Дванаццацігадовая Васіліна Савіцкая памерла ад ранаў.

Канешне, не ўсе 50 тысяч беларускіх імігрантаў падаліся ў аргенцінскае "туды", куды Макар цялят не ганяў. Другая хваля расцякаецца фактычна па ўсёй Аргенціне. Беларусы працуюць на тых жа "фрыгарыфіках" (бойнях), будоўлях, заводах сталіцы. Пампуюць "чорнае золата" на радовішчах правінцыі Камадора-Рывадавія, здабываюць соль на капальнях ля горада Баія Бланка.

Несалодкія варункі адаптацыі і побыту абумоўліваліся не толькі тым, дзе, але і ў які час беларус высадзіўся на аргенцінскі бераг.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

(Працяг будзе).

Працяг.
Пачатак у № 15, 16 .

## ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ

# У ЖАНРЫ МІФАТВОРЧАСЦІ

Адны вывучаюць гісторыю, зазіраючы пад вокладкі таямнічых фаліянтаў. Другія больш блізкую мінуўшчыну адкрываюць у архівах. Трэція "марнуюць" час над навуковай літаратурай. А большасць... А большасць у лепшым выпадку зазірае ў багатае ўчора з дапамогай займальнага мастацкага чытання. Але ж як у нас, у беларусаў, то і гэтага займальнага гістарычнага чытання не надта шмат. Хіба што стосік кніжак Уладзіміра Караткевіча, Кастуся Тарасава, Вольгі Іпатавай, Уладзіміра Арлова, Леаніда Дайнекі...

Яшчэ большую працу (няхай сабе і будзённа "прапагандысцкую") мусіць выконваць міфалагічны, пагранічны з прыгодніцкім жанр. Калі ўгледзецца ў сутнасць добра ўсім знаёмага, то фактычна міфалагічна-гістарычны характар і ці не ва ўсяе творчасці Аляксандра Дзюма. Але ж гэта ў французаў... Мо калі і мы будзем мець нешта накшталт рыцарскіх раманаў адметнага французскага пісьменніка. Пакуль жа на беларускім кніжным небасхіле больш сціплая знічка запалілася. У мінскім выдавецтве "Полымя" пабачыла свет праца Льва Казлова "З дазволу караля і вялікага князя". Трапная характарыстыка кнігі пададзена ў выдавецкай анатацыі: "Набыўшы гэтую кніжку, чытач зможа зрабіць цікавае падарожжа ў мінуўшчыну, дзе яго нецярпліва чакаюць вядомыя і невядомыя гістарычныя асобы, што існавалі на самай справе, але з якімі здараліся малаверагодныя ці неверагодныя падзеі. Гэта значыць, што вам у рукі трапіла першае выданне беларускіх гістарычных анекдотаў.

Даследчык нашай мінуўшчыны Леў Казлоў у клопаце за вяртанне гісторыі Беларусі, Вялікага Княства Літоўскага выбраў выразны інструментарый, з дапамогай якога даносіць подых старажытнасці. І гэты інструментарый — не толькі ў выбары аўтарам жанру апавядання, але і ва ўменні гісторыка ў сур"ёзных, а часам і трагічных калізіях далёкіх ад нас стагоддзяў бачыць камічнае, смешнае. Вынайдзеныя ў старажытных летапісах і хроніках факты — сведчанні шматпланавых дзей і ўчынкаў нясуць да сучаснага чытача эстэтычнае багацце рэчаіснасці. І робіцца гэта з дапамогай гумару, часам вострай сатыры, іроніі, сарказму, жарту, каламбуру, насмешкі. Калі ўжо зайшла размова пра мастацкія сродкі гістарычнага анекдота і яго трапнасць, то след выказаць вось якое назіранне. Пераказваючы сатырычныя жыццятворы мінуўшчыны, Леў Казлоў насяляе анекдот мноствам фраземаў. І чым жа гэта не сакавіты, вобразны гістарычны ўрок прыгожай роднай мовы?! Якраз на ўспамін прыходзяць словы слыннага беларускага мовазнаўцы Ф.Янкоўскага: "Фразеалагічны запас — істотны і неацэнны кампанент беларускай літаратурнай мовы, яе вуснай і пісьмовай разнавіднасцей". І вось якія ёмістыя, шматфарбныя прыказкі, фразеалагізмы ў кнізе Льва Казлова: "Хто мае грошы, той мае і розум", "Сёння за грошы, а заўтра задарма", "Дзіва, што ў караля жонка пенкная", "Кароль — у Кракаве вышэйшы, а ў Нясвіжы — я важнейшы", "У каго капа ляжыць — да таго яшчэ бяжыць"... Праўда, тое-сёе з гэтых трапных выразаў патрабуе тлумачэння, што і лаканічна, з пачуццём густу робіць Леў Казлоў.

Падзеленая на сем частак, кніга як бы і нясе да чытача сем тэматычных абсягаў, сабраных гістарычных анекдотаў: "Усмешкі між летапісных радкоў", "Прыправа да гуманізму", "Рыцары еўрапейскай сарматыі", "Дасціпны люд паспаліты", "Каранаваныя снапы", "Ад Яся да Стася", "Што дазволена Радзівілу".

Дазволім толькі адну цытату. У пераказе наступнага гістарычнага анекдота — трапная народная мудрасць, "адвечнае жаданне людзей зрабіць яго Вялікасцю Каралём звычайны Розум. "Асобым блазенскім статусам быў надзелены каралём паж па імені Туркул. Усё сыходзіла яму, але неяк ён усё ж перабраў меру. І раз"юшаны Станіслаў Аўгуст вызваў генерала Чапскага, загадаўшы, каб той адвёз пажа ў дом вар"ятаў, што знаходзіўся пры кляштары баніфратараў. Трэба сказаць, што генерал быў трохі кантужаны, ад чаго яго галава магла нечакана канвульсіўна пацепвацца ў самы непажаданы момант. А ў астатніх справах бравы ваяка быў нармальным чалавекам і разумеў гумар.

Спачувальна хмыкнуўшы і затрэсшы галавою, Чапскі павёў пажа да карэты, што чакала ля варот замка. Цяпер Туркулу было не да смеху. І ён стаў перабіраць у галаве розныя магчымасці для асабістага выратавання. Але нічога, апрача таго ж "неўміручага" гумару, не прыдумаў. Таму дарогай ён стаў расказваць генералу розныя забаўныя гісторыі, даводзячы таго да амаль істэрычнага рогату. Калі яны даехалі да кляштарнай брамы, паж хуценька выскачыў першым з карэты, і пакуль Чапскі, рагочучы і трасучыся ад чарговай байкі свайго "арыштанта", выбіраўся ўслед, падбег да выйшаўшага гвардыяна і ўсхвалявана заявіў:

— Па загаду яго каралеўскае вялікасці дакладваю, што прывезены мною генерал ёсць хворы розумам, з-за чаго павінен быць вамі затрыманы на адпаведны час.

Генерал ізноў затросся ад рогату, палічыўшы, што гэта чарговае блазенства. Але манахі, якім гвардыян ужо даў знак, імкліва падскочылі да вяльможы, у імгненне вока спавілі ў адпаведную адзежыну з доўгімі рукавамі і пацягнулі ў нетры кляштара.

Калі Туркул вярнуўся ў замак і неўзабаве трапіўся на вочы каралю, той здзіўлена ўсклікнуў:

— Што, Чапскі не выканаў мой загад?

— Не, ваша мосць, амаль выканаў, але ў апошні момант памяняўся са мною ролямі. Таму я аддаў яго ў міласэрныя рукі баніфратараў.

Кароль аслупянеў ад такіх слоў свайго блазана і... заліўся смехам".

Ва ўступным слове да кнігі Льва Казлова вартасць, значнасць і неабходнасць яго працы Уладзімір Някляеў ацэньвае наступным чынам: "Не гісторыі нам бракуе, якой хапіла б на некалькі народаў, а напісанага пра яе. І перш за ўсё — напісанага ў жанры міфатворчасці: лёгкага, займальнага, рамантычнага, неверагоднага... У французаў гэта ёсць, таму ўсе іх васемнаццаць Людовікаў, хоць аднаму яны самі ж галаву адсеклі, з імі і сёння як жывыя, а тры нашых Жыгімонты паміж нас мёртвыя". І далей: "Кніга выдатная, таму хваліць аўтара, дзякуй Богу, няма патрэбы. Зазначу толькі наступнае: тое, што зрабіў Леў Казлоў, мне асабіста ўяўляецца амаль неабходным дадаткам да параўнаўча нядаўніх кніжак Адама Мальдзіса і Міколы Ермаловіча, ды, зрэшты, і да шмат якіх іншых гістарычных твораў, навуковых і мастацкіх. З гэтым указальнікам людзей і падзей збягаем у мінулае як з радасным, рознакаляровым ліхтарыкам".

Да гэтых слоў наўрад ці што болей трэба дадаваць. Старонкі кніжкі гартаюцца лёгка, а разам з гістарычным веданнем развіваюць пачуццё гумару.

Шкада, што ў працы Льва Казлова — малы тыраж (усяго толькі 5 200 экземпляраў). Больш жартаўнікоў, аматараў лёгкага чытання сярод беларусаў, відаць, няма... Шмат працы ў афармленне кніжкі ўклаў мастак П.Драчоў. І вельмі шкада, што "З дазволу караля і вялікага князя" — на звычайнай шэрай паперы, без цвёрдай вокладкі. А можна было б зрабіць гэтае выданне падарункавым... Зразумелая справа, "па-чорнаму" і нават без дазволу вялікіх асоб сёння з намі "жартуе" рынак.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ



**Палац мастацтва, што па вуліцы Казлова, за невялікую плату можа прытуліць, сагрэць і нават паказаць нешта цікавае. Так і здарылася. На шкляных дзвярах пры ўваходзе вісела афіша: "Алена Кароткая. Выстаўка жывапісу", а назва выстаўкі ставіла ў тупік і ніяк не хацела чытацца: літары напісаны задам наперад. Толькі зайшоўшы ў дзверы і паглядзеўшы адтуль на прасвет, я прачытаў: "Пахвала святлу". Разважаючы над гэтым словазлучэннем, падняўся на другі паверх і трапіў у залу з карцінамі. Яны нязвыклыя, але з першага погляду вас не пакідае адчуванне старых знаёмых. Тут жа сустрэўся з іх аўтарам, маленькай жанчынай.**

**— Алена Уладзіміраўна, у вашых карцінах многа адлюстраванняў рыб. Хто вы па гараскопу?**

**— Вадалей. Знак вады, а яшчэ я кот.**

**— Чашырскі?**

**— Не ведаю, магчыма...**

**— Чаму на вашых карцінах губы выходзяць за межы твару? — пытаю ў мастачкі і ўсведамляю сваю бестактоўнасць. Гэта ўсёроўна, што пытацца ў рамонкаў, чаму яны белыя, а не блакітныя, як незабудкі.**

**— Таму што мне так падабаецца. Аднойчы ўбачыла недзе, спадабалася, і цяпер не заўважаю ў гэтым нічога асаблівага. Жыццё адно, і хочацца пражыць яго па-свойму, так, як лічу патрэбным.**

**— Вы пачыналі вучыцца ў мастацкай школе на аддзяленні скульптуры, а цяпер у вас жывапіс. Чым выклікана гэтая перамена?**

**— Калі шчыра, адбілі ахвоту абавязковымі акадэмічнымі штудыямі. Асабліва цяжка даўся апошні год школы. Так што пытання: скульптура ці жывапіс, не стаяла.**

**— Каму вы аддаяце перавагу сярод мастакоў?**

**— Зайздрошчу чысціні мастацтва народных "наіўных" мастакоў: Прымачэнка, Кіш і, вядома, Анры Русо. Калі пачынаеш займацца жывапісам прафесійна, то ў кожным мастаку знаходзіш свае плюсы. Заўсёды падабаліся і цяпер не перастаюць захапляць імпрэсіяністы, асабліва Рэнуар, яго схільнасць да светлай, яркай палітры. Наша жыццё поўнае змрочных, цёмных тонаў. Няўжо ў карціне яны абавязковыя? Мне запомнілася выказванне Рэнуара аб тым, што ўсе вялікія мастакі шукаюць трагедыі, іх жыццё таксама часта трагічнае, а ён не вялікі, ён піша святло і шчасце. Дык вось, я таксама не вялікая...**

**— Ці не ў гэтым сакрэт вашай любві да белага колеру, ён жа ў большай ці меншай ступені напаўняе кожнае ваша палатно?**

**— Часткова, а яшчэ таму, што акно маёй майстэрні выходзіць у поле, удалечыні бачыцца дарога, а астатняе — неба. Часта поле ахутвае туман. Гэта выдатна!**

**Кніга водгукаў стракаціць самымі палярнымі выказваннямі і заўвагамі, але няма сярод іх раўнадушных. Стоячы перад карцінай, можна спрабаваць шукаць аналогіі ў гісторыі мастацтваў, высвятляць ступень уплыву таго ці іншага майстра. А можна не корпацца ў памяці і проста здзіўляцца новай мастацкай рэальнасці, у якой рыбы падобныя на людзей, людзі — на птушак, а русалкі і П'еро з крыламі выступаюць у зусім нязвыклых для сябе ролях.**

**Наіўнасць малюнка, колеравыя шуканні імпрэсіянізму і паэтыка японскага вершаскладання, злучаныя разам, робяць асаблівае эстэтычнае ўражанне. Стыль А.Кароткай можна было б назваць эклектычным, калі б не яго летуценная рамантычнасць, выказаная ва ўсёй мастацкай структуры палотнаў, пачынаючы з іх назваў: "Якія сніліся сны нам, калі месяц на шаўковае неба не ўзыходзіў", "Цёмных ракавін шум пачула і з той пары страціла спакой", "Усё ззаду, а што наперадзе!, "Я ўпала на гэтую сухую зямлю..." Сваёй загадкавай эмацыянальнасцю назвы дапаўняюць карціны асаблівымі сэнсавымі адценнямі.**

**— Дзякую вам за гутарку і цікавыя работы. Жадаю творчых поспехаў і разумеючага гледача, здольнага падтрымаць мастака маральна і матэрыяльна.**

**— Дзякуй, да пабачэння.**

**Пакідаючы гэтую выстаўку, падумаў, што жыццё — гэта ланцуг здарэнняў, якія многа разоў адбываліся з людзьмі, і хаця з табой яны адбываюцца ўпершыню, ты добра ведаеш іх.**

**Ігар ПЯРЭРВА.**

**НА ЗДЫМКАХ:** работы А. КАРОТКАЙ.



# ПАКУТНІК ЗА БЕЛАРУСКУЮ ІДЭЮ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Аднак ёсць ускоснае сведчанне цеснай сувязі Ул.Самойлы з гэтай радыкальна-дэмакратычнай газетай, выдаўцы і рэдактары якой "не заўважылі" самабытную беларускую нацыю, хоць і паважалі яе "этнаграфічныя асаблівасці" і зрэдку друкавалі фальклорныя матэрыялы. І вось па рэкамендацыі Ул.Самойлы рэдактар газеты М.Мысоўскі друкуе першы верш Янкі Купалы "Мужык" (1905, 15 мая). З гэтай падзеі можна адлічваць пачатак чарговай, самай высокай беларускай адраджэнскай хвалі. Яна жывіла станаўленне нацыянальнай класічнай літаратуры.

Сам паэт паводле тэмпераменту і глыбіні перажыванняў, Ул. Самойла, здаецца, бачыў у Янку Купалу свайго духоўнага брата, праз якога сам далучаўся да беларускага нацыянальнага Адраджэння. Ён быў адным з заснавальнікаў першага беларускага кніжнага таварыства "Мінчук" (1906–1907), рыхтаваў там да друку "Жалейку" Янкі Купалы. Але не было сродкаў, суполка распалася. Тады Ул.Самойла выкарыстаў сваё пецярбургскае знаёмства з прафесарам Бранiславам Эпімах-Шыпілам (1859–1934), фактычным кіраўніком беларускай выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца" (1906–1914), рэкамендаваў да выдання першы зборнік паэта. Пасля выхаду ў свет "Жалейкі" Янка Купала прысвяціў сваму сябру адзін з вершаў цыкла "З песень беззямельнага" ("Як спыніўся я за хатай...", друкаваўся ў "Нашай ніве", 1908, 20 лістап. з надпісам "Пасвячаю Ул. Ів. С—а"). Вядомы аўтограф Купалы — надпіс на падараванай сябру фотакартцы: "На довад шчырага шацунку і сардэчнай прыязні найлепшаму і найсправядлівейшаму свайму учыцелю дабрадзею пану Ул.Ів.Самойла ад Янука Купалы. Вільня. 16.12.1908 г. Шчасліў будзь, заступніку бедных людзей. Жыві, дажывіся больш радасных дней. Я.Купала". У сваю чаргу Ул. Самойла прысвяціў сябру верш на расійскай мове "Янку Купалу. У адказ на віншаванне з новым, 1907 годам".

Чалавек па натуры імпульсіўны, схільны да інтэнсіўнага рыўка ў творчасці і да глыбокага меланхалічнага "маўчання", Ул. Самойла перажыў свой першы творчы пад'ём у 1908 годзе, калі па ініцыятыве памочніка прысяжнага паверанага Віктара Чавусава пачала выходзіць адна з самых культурных газет "Минский курьер". У надрукаваных ёю матэрыялах ёсць сведчанне таго, што Самойла быў яе штатным супрацоўнікам (падпісваўся звычайна псеўданімам Вл.С.).

Якраз тады, у 1908 годзе, Ул. Самойла пачаў прапагандаваць беларускую ідэю ў расійскім друку пастаноўкай і сёння не вырашанай праблемы навучання і выхавання дзетак беларусаў у іх роднай мове. На думку публіцыста, родная мова ў дашкольным і школьным выхаванні — мінімальная ўмова, без якой немагчымае духоўнае развіццё чалавека. Роднае слова — душа дзіцяці, жывая сувязь паміж яго ўнутраным светам і багаццем нацыянальнага жыцця: "Няма школы на чужой, няхай самай блізкай мове!.. Стварыць для нашага народу родную, жывую школу — гэта наша галоўная задача... Пакуль гэта не зроблена — народ спіць, а, мабыць, нават горш: народ прападае. Толькі гэты пароль адрозніваe сапраўдных сяброў беларускага народу ад яго "сяброў" справа".

На выхад Купалавай "Жалейкі" Ул.Самойла адклікнуўся дзвюма рэцэнзіямі. У "Минском курьере" ён назваў свой артыкул "Вялікае свята: "Жалейка" Янука Купалы". Вось яго пачатак: "На вуліцы Маладой Беларусі — вялікае свята! Сонца жывой сапраўднай паэзіі заглянула ў акенца цёмнай, беднай, але вялікай хаты беларускага народа! Гукі роднай "Жалейкі", прасякнутыя сапраўднай чалавечнасцю, жывой любоўю і жалем да роднага беларускага свету, вырваліся з народнага сэрца, з вуснаў нацыянальнага паэта і цяпер сталі нацыянальным скарбам для беларуса, магутным рычагом для яго разумовага і маральнага развіцця... Мы прысутнічаем пры гістарычнай падзеі, надзвычай важнай для краю. Беларуская песня з узроўню этнаграфіі пераходзіць на ўзровень літаратурны. Беларускі народ з аб'екта фалькларыстычнага даследавання становіцца суб'ектам нацыянальнай самасвядомасці. І "Жалейка" Янука Купалы — адзін з доказаў гэтай вялікай падзеі"... (1908, 23 жніўня).

Рэцэнзію ў "Нашай ніве" Самойла падпісаў сваім "мінскім" псеўданімам Владэк з Казіміраўкі і прыдаў ёй адраджэнскі сэнс. Купалавую "Жалейку" рэкамендаваў беларускім чытачам як паэтычны сімвал узыходжання нацыі на арэну еўрапейскай гісторыі і культуры, а самога песняра — як прарока, "пячальніка і заступніка" беларускага працоўнага народа.

Рэцэнзіі на першую паэтычную кніжку Купалы засведчылі беларускую ментальнасць Ул. Самойлы. Ужо на першым, "мінскім" этапе сваёй творчасці ён не быў толькі рускім краёвым паэтам (а ён пісаў і вершы) і публіцыстам, бо адразу далучыўся да беларускага літаратурнага руху і пэўным чынам нават "запраграмаваў" адраджэнскую плынь нашай літаратурнай крытыкі. Дарэчы, у "Минском курьере" (1908, 13 крас.) Самойла апублікаваў свой пераклад верша Купалы "Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні" пад назваю "Беларусу". Гэта быў, здаецца, першы вопыт перакладу Купалавай паэзіі на расійскую мову. Але тады ён усё яшчэ заставаўся пісьменнікам "на мяжы дзвюх культур" і пэўным чынам нагадваў героя аповесці Максіма Гарэцкага "Дзве душы" Абдзіраловіча: амаль да саракагадовага ўзросту ягоная душа адною часткаю жыла ў сферы расійскай культуры "Сярэбранага веку", а другою — у стане беларускага Адраджэння.

Апублікаваныя Ул. Самойлам літаратурна-крытычныя артыкулы ў "Минском курьере" належаць да лепшых здабыткаў рускай краёвай літаратуры ў гэтым жанры. Ён быў адным з першых (не толькі на Беларусі, але і ў Расіі) даследчыкам творчасці нарвежскага драматурга Генрыка Ібсена — валадара думаў прагрэсіўнай моладзі канца XIX — пачатку XX стагоддзяў. Ягоныя п'есы тады не сыходзілі са сцэны Масквы, Пецярбурга і тады губернскага Мінска. Публіцы імпанавала маральна-экзістэнцыяльная праблематыка пісьменніка — лёс людской асобы ў грамадстве, адказнасць чалавека перад Богам і светам. У цыкле артыкулаў беларускага крытыка пра герояў ягоных драм ёсць бліскучая спроба іманентнага аналізу мастацтва, імкненне разгадаць сімволіку і падтэксты твораў.

У ібсенаўскім цыкле артыкулаў Ул. Самойла — адзін з пачынальнікаў той "медытацыйнай" крытыкі і публіцыстыкі, якая адраджаецца сёння, але, на жаль, не заўсёды ўдала, часам схіляючыся да шматслоўнасці. Яе прызначэнне ў тым, каб сумовіцца з чытачом не паводле раней нарыхтаваных матэрыялаў і лагічных схемаў, а імправізацыйна, як бы ўключаючы публіку ў працэс думання. А задача "сімвалічнага аналізу", як назваў крытык свой метад, — разгледзець у вобразах, калізіях і мастацкіх структурах пісьменніка сімвалы рэальнай гісторыі краіны, для Самойлы — не так Нарвегіі, колькі Расіі. І тут публіцыст прарочыў ёй амаль тое, што спраўдзілася пазней: спачатку татальная рэвалюцыя, "бунт для бунта", а за ім — дэмакратыя без павышэння культуры і як вынік — разбэшчванне ўлады, бязмежны рост хлусні, подласці, прадажнасці, нахабства.

Ул. Самойла быў шчырым і кампетэнтным прыхільнікам паэзіі Аляксандра Блока, некалькі гадоў (1909–1911) перапісваўся з выдатным паэтам, выступаў з лекцыямі пра ягоную творчасць. А. Блок у сваіх дзённікавых запісах адзначыў артыкул Самойлы пра сваю паэзію (друкаваўся ў альманаху "Туманы"), як адзін з лепшых, паставіўшы яго поруч з рэцэнзіямі В. Брусава, Вяч. Іванова, Д. Філосафава. Ул. Самойла паспрабаваў свае сілы і ў паэзіі: надрукаваныя ім у "Минском курьере" ды іншых выданнях вершы маглі б скласці зборнік. Але паводле свайго дасканалага мастацкага густу, відаць, палічыў іх за паэтычныя штудыі, у якіх "прачытваецца" ўплыў А. Блока і К. Бальманта. І не стаў выдаваць кніжкі.

Мы мала што ведаем пра творчасць пісьменніка "цёмнага перыяду" (1909–1917) яго жыцця. Паводле скупых звестак яго жонкі для А. Бергман, у гады першай сусветнай вайны Ул. Самойла быў мабілізаваны для працы ў дзяржаўнай хімічнай лабараторыі ў Мінску. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ён быў выбраны ад партыі кадэтаў дэпутатам Мінскай гарадской думы. З красавіка 1917 года Ул. Самойла — рэдактар газеты "Вестник Минского губернского комиссариата" і ўпаўнаважаны гэтага мясцовага органа Часовага ўрада Расіі. Восенню 1919 года пабываў кандыдатам у "галосныя" Мінскага гарадскога савета. Верагодна, пераезд у Вільню адбыўся ў снежні таго ж года, бо тады ў Мінску ўсталявалася савецкая ўлада, а ў яе, мякка кажучы, не было спачування да шляхціца і кадэта, нават калі той быў "рускамоўным" пісьменнікам.

Было яму тады каля сарака гадоў. У Вільні адаптаваўся без асаблівых цяжкасцяў, бо ведаў беларускую і польскую мовы, меў знаёмых — Адама Станкевіча, прафесара Мар'яна Здзяхоўскага ды іншых. Яны дапамаглі яму атрымаць пасаду выкладчыка грэчаскай і лацінскай моў у прыватнай гімназіі. Даваў таксама прыватныя ўрокі, бо прафесар Здзяхоўскі пасылаў сваіх вучняў да Самойлы як дасканалага знаўцы класічнай філалогіі. Жыў гэты сціплы настаўнік на рагу вуліц Людвісарскай і Баніфатарскай, 14/2, на кватэры з піяніна. У маладосці ён навучыўся іграць на гэтым інструменце, нядрэнна маляваў. Вальсы і мазуркі ў выкананні адзінокага халасцяка зацікавілі суседку па кватэры, польскую вільнянку, медсястру Софію-Яніну Жылевіч. Розніца ў гадах не перашкодзіла ўзаемнай сімпатыі: маладой паненцы падабаўся высокі і шчуплы, шляхетны і адукаваны сусед. Вянчанне адбылося ў касцёле, паводле жадання жонкі-каталічкі. Уладзімір быў праваслаўным, але талерантным, не перашкаджаў, каб яго сына, таксама Уладзіміра, выхоўвалі на католіка. Бацька быў першым настаўнікам сына. Пра свае драмы і беды распавядаць не любіў, у добрым гуморы музыцыраваў і чытаў вершы. Іхняя сціплая кватэра на паддашшы таго ж самага дома стала вядомая сярод дэмакратычнай інтэлігенцыі — беларускай, польскай, расійскай. Прыходзілі гімназісты і студэнты са сваімі вершамі, даследаваннямі. Досыць часта бываў там Браніслаў Тарашкевіч. Паводле меркавання А. Бергман, Самойла падаў яму ідэю — перакласці "Іліяду" на беларускую мову.

1921—1922 гады далі вялікі пад'ём заходнебеларускаму нацыянальнаму руху. Пасламі ў Сойм сталі 14 прадстаўнікоў ад беларускіх арганізацый. Сціплы "беларускі трыумф" зрабіў моцнае ўражанне на Самойлу, і рэагаваў ён на гэтую падзею, як заўсёды, спантанна і энергічна: канчаткова далучыўся да беларускай справы. Стаў прафесіянальным палітычным журналістам, адсунуўшы літаратурную крытыку на другі план. Друкаваўся пераважна ў левым друку, супрацоўнічаў з Л. Родзевічам, Я. Лагіновічам, Б. Тарашкевічам. Па сутнасці, Ул. Самойла быў тады "генератарам ідэй" беларускага радыкальна-дэмакратычнага друку, выступаючы аўтарам рэдакцыйных матэрыялаў і праблемных артыкулаў без указання аўтарства. Найчасцей карыстаўся псеўданімам Суліма, бо лічыў сябе нашчадкам радаводу шляхціца Завішы Чорнага, які меў герб "Сулімы".

Публіцыстычным дэбютам Ул. Самойлы ў заходнебеларускім друку быў, здаецца, артыкул "Не чакайце міру", апублікаваны ў віленскай газеце "Незалежная думка" 11 ліпеня 1920 года, падпісаны псеўданімам Civis якраз напярэдадні паходу Чырвонай Арміі пад Варшаву. Аўтар прадбачыў гэтую падзею і ганебны Рыжскі мір следам за ёю, раіў свайму народу: "Дык не спадзявайцеся, беларусы, на чужынцаў, на канферэнцыі і лігі народаў, не чакайце міру і згоды без вас, а дабівайцеся панства ў сваёй старане". Крыху пазней ён выступіў з серыяй публіцыстычных нататкаў у расійскай газеце "Виленское слово". Дасціпна крытыкаваў дактрынёрства і фармалізм бальшавіцкай палітыкі і савецкага "ладу" (ці, скарэй, бязладдзя).

Праз год Ул. Самойла надоўга развітаўся з расійскай тэмай, але пэўны час цікавіўся жыццём у БССР, асабліва калі там пачаліся беларусізацыя і ўзбуйненне Беларусі за кошт яе спрадвечных Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны. Гэтай тэме ён прысвяціў артыкул у газеце "Наш сцяг", адзначыў за камуністамі станоўчую рысу — прызнанне сваіх памылак у дачыненні да Беларусі, дзе яны раней арыентаваліся на антыбеларускі лямант "сваіх жа рэнегатаў ці наезжых (краёвых) культуртрэгераў з адукацыяй царкоўнапрыходскіх школаў і жэрэўраў".

Галоўным ягоным клопатам заставаліся культурнае ўзгадаванне і нацыянальнае самавызначэнне Заходняй Беларусі, бо яна ўяўлялася пісьменніку палітычнай арэнай, дзе вырашаецца лёс нацыі, яе будучыня. Не выпадкова першай газетай, дзе Самойла выявіўся як дальнабачны палітык, была газета "Наша будучыня" (1923). Там ён дасціпна выкрываў польскую псеўдарадыкальную партыю "Вызваленне", якая абараняла інтарэсы польскіх службоўцаў, асаднікаў і апалячаных беларусаў, не без поспеху прымяняючы тактыку мімікрыі — падробкі пад беларускі адраджэнскі рух. Ул. Самойла назваў асадніцтва "гішпанскім каўняром" на шыі Беларусі, "адным з самых ядавітых скарпіёнаў", якім польская ўлада думала прывязаць да сваёй дзяржаўнасці сялянскую Беларусь. Асадніцтва, паводле яго дасціпнага вызначэння, — гэта спроба ажывіць "ідэю" аракчэеўскіх вайсковых пасяленняў, узгадаваць "польскае казацтва на беларускіх сялянскіх плячах".

**Уладзімір КОНАН.**

**(Заканчэнне будзе).**

## ЖЫЦЦЁ ПРАВІНЦЫІ

## ТУЖЭЙ ЗАЦЯГНУЦЬ РАМЯНІ

Культуру мы прывыклі разглядаць як нешта другаснае, без чаго можна і абысціся да лепшых часоў. А Беларусь сёння, як вядома, перажывае далёка не лепшы свой гістарычны перыяд. Агульны стан эканомікі, якая знаходзіцца ў крызісе, вымушае, як ніколі, лічыць кожную капейку. І тут няцяжка здагадацца, што ў першую чаргу церпіць культура. Асабліва цяжкае становішча ў гэтым плане складваецца ў сельскай мясцовасці.

Не пазайздросціш зараз Жлобінскаму раённаму аддзелу культуры, дзе працуе нямала адданых справе прафесіяналаў. Але, на жаль, у культуры без грошай ніяк не абысціся, а вось іх якраз і катастрафічна не хапае. Летась аддзел з-за недахопу сродкаў у райбюджэце атрымаў у сваё распараджэнне толькі крыху больш за 20 мільёнаў рублёў з амаль 24 запланаваных. Сёлета ў раёне на культуру выдзелена аж 99 мільёнаў рублёў. Многа гэта ці мала? Мяркуйце самі. Толькі на паліва і іншыя камунальныя паслугі ў гэтым годзе аддзелу давядзецца аддаць не менш 72 мільёнаў рублёў. 33 мільёны забярэ заработная плата. А дзе ўзяць грошы на арганізацыю розных культурных мерапрыемстваў, на рамонт пабудоў, закупку новых кніг для бібліятэк і іншыя патрэбы? А нас жа яшчэ чакае далейшая інфляцыя. Хаця б гэтых 99 мільёнаў хапіла на некалькі месяцаў.

Раней на месцах культуру падтрымлівалі калгасы і саўгасы. Але сёння гэтым у раёне займаюцца адзінкі. Многія кіраўнікі гаспадарак ламаюць галаву над тым, дзе ўзяць паліва для тэхнікі, дзе і за што здабыць запчасткі для гэтай жа тэхнікі. Тут, як кажуць, не да спеваў і скокаў. А тым часам культура ціха памірае. На раёне ўжо не дзейнічаюць многія кінаўстаноўкі (яны нерэнтабельныя), толькі летась спынілі сваё існаванне пяць сельскіх клубаў і адна бібліятэка. Не менш клубных установаў плануецца закрыць і сёлета. На 20 тысяч тамоў у мінулым годзе зменшыўся і кніжны фонд бібліятэк. Будзе "худзець" ён і надалей. А калі ўлічыць, што не спісаны яшчэ многія тысячы тамоў сачыненняў так званых класікаў марксізму-ленінізму, дык хутка сельскаму чытачу наогул не будзе што чытаць.

Адпаведна таму, як у раёне здае свае пазіцыі культура, узрастае злачыннасць, павялічваецца колькасць выпадкаў захворванняў алкагалізмам, з"явілася і новая для нас напасць — наркаманія. Летась пры раённым аддзеле міліцыі вымушаны былі стварыць спецыяльную службу па барацьбе з гэтай бядой.

Зразумеўшы сваё становішча, культработнікі раёна сёлета пайшлі на незвычайны для сябе крок — упершыню паміж прафсаюзнай арганізацыяй і адміністрацыяй быў заключаны калектыўны дагавор. Але ўсё-такі гэта малая ўцеха, таму што яна ад беспрацоўя ўсё роўна не выратуе, хіба толькі страціўшаму працу культработніку будзе аказана пры звальненні больш-менш значная матэрыяльная падтрымка. Што будзе з культурай, з усімі намі заўтра, аднаму Богу вядома.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

## *АДКУЛЬ ШТО ПАЙШЛО*

**Краязнавец Зміцер Яцкевіч лічыць, што яго роднаму Магілёву не пашанцавала: горад і яго наваколле апынуліся ўбаку ад краязнаўчых даследаванняў, выпалі з поля зроку газет і выдавецтваў. Сам жа ён лічыць, што гісторыя Магілёва поўная таямніц і цікавых падзей, якія З. Яцкевіч вывучае на працягу прыкладна 15 гадоў, займаецца археалагічнымі раскопкамі. "Збіраю па крупінках звесткі і радуюся кожнай знаходцы", — гаворыць вучоны. Частка яго здабыткаў экспануецца ў адрэстаўрыраванай вежы Мірскага замка. З. Яцкевічам напісана багата цікавых артыкулаў пра горад, які ён любіць. Сёння друкуецца першы з іх.**

# НАЙМЕННЕ МАГІЛЁВА

Гістарычныя тапонімы Магілёва і вобласці да апошняга часу невядомыя большасці нашых жыхароў, а таксама застаюцца загадкай для навукоўцаў. Пачнём з паходжання назвы горада.

Датай заснавання Магілёва, як і ўсіх іншых месцаў, лічыцца першая згадка аб ім у пісьмовых крыніцах. І быццам бы гэта быў 1267 год. Гэтая дата з'яўляецца на старонках перакладу Магілёўскай хронікі, які зрабіў Гартынскі ў другой палове XIX стагоддзя. У тэксце хронікі, што надрукавана ў 35-м томе поўнага збору рускіх летапісаў, такой даты няма. У перакладзе Гартынскага значыцца, што ў 1267 годзе пры ўпадзенні ракі Дубравенкі ў Дняпро быў заснаваны замак. Ягоным заснавальнікам лічыцца галіцкі князь Леў Данілавіч Могій, імя і прозвішча якога лягло ў аснову наймення горада.

Існуе таксама шэраг паданняў і легенд, якія звязваюць паходжанне назвы з мясцовымі рабаўнічымі атаманамі (Машэка, Магіла), якія, маўляў, былі пахаваны тут і пакінулі адпаведныя тапонімы. Гэтая версія атрымала літаратурную апрацоўку ў паэме Янкі Купалы — "Магіла льва", у вершы У.Караткевіча "Машэка". Такім чынам, этымалогія назвы горада выводзіцца як ад асабістага імя "Магіла", так і ад якасцей чалавека — "магутны леў". Апошняга пункту гледжання прытрымліваюцца і аўтары Магілёўскай хронікі.

Не выключана, што назва "Магілёў" паходзіць ад магілы, могілак (пахаванняў). У славянскай мове слова "магіла" з'яўляецца сінонімам слова курган і асацыіруецца з высокім месцам. Напрыклад, Т.Шаўчэнка ў адным са сваіх апошніх вершаў пісаў, каб яго пахавалі на высокім магіле (у сэнсе высокага месца, кургана). Вершаваны надпіс да першага герба Магілёва (герб Вежа), што быў напісаны ў 1625 годзе ў першым радку, сведчыць, што Магілёў так быў празваны ад слова "магілак". Гэтую версію ў свой час падтрымлівалі складальнікі "Вопыту апісання Магілёўскай губерні", аўтарамі якога з'яўляліся А.Дэмбавецкі, Фурсаў, Чалоўскі, а таксама некаторыя іншыя даследчыкі.

Вось што на гэты конт гаворыцца ў Баркалабаўскім летапісе: "Лета 1526 год больший замок зроблен и прынято многа гары Магилы, на каторай цяпера замак Магилёў стаиць и па горцы Магила назва". На нашу думку, варта ўзяць за аснову тлумачэнне адной са старажытных крыніц па гісторыі горада, напісанай у канцы XYI — пачатку XYII стагоддзяў у Баркалабаве, што пад Магілёвам. Сёння дакладна вядома, што магілёўскі замак пабудаваны ў 1526 годзе, знаходзіўся на месцы сучаснага парку імя Горкага, што дазваляе нам звужаць кола пошукаў і спыніцца на меркаванні паходжання Магілёва ад слова "магіла". Узнікае пытанне аб паходжанні апошняй назвы. Першае тлумачэнне — ад асабістага імя Магіла, другое — ад могілак (пахаванняў). Апошняя версія пацвярджаецца і археалагічнымі доследамі, што праводзіліся на тэрыторыі парку імя Горкага ў 1982 — 1991 гадах. Тады былі знойдзены рэшткі грунтавога (бескурганнага пахавання), могільніка, які датуецца першымі стагоддзямі нашага тысячагоддзя...

Такім чынам, найменне Магілёва паходзіць ад гары Магілы. Дазнацца аб дакладным паходжанні апошняй назвы можна толькі з дапамогай пошукаў новых крыніц па ранняй гісторыі Магілёва.

**Зміцер ЯЦКЕВІЧ.**

# ПРА БЕЛАРУСЬ І БЕЛАРУСАЎ

Сёлета выйшаў (пазначаны лістападам-снежнем мінулага года) першы нумар літаратурна-мастацкага часопіса беларусаў Латвіі "Світанак". Выпусціла яго аднайменнае Латвійскае таварыства беларускай культуры, а сам часопіс, як указваецца, "убачыў свет дзякуючы шчырай дапамозе Першага Ярарха БАПЦ Мітрапаліта Мікалая, спадара Алеся Пальчэўскага і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь".

У нумары — нарыс В. Целеша "Беларускія мастакі Латвіі", вершы А. Гуцава, пачатак палітычнага дэтэктыва ў дакументах "Загаворшчыкі" і хронікі самога таварыства.

Змешчаны рэпрадукцыі твораў Ю. Казака "Марсіянская хроніка", М. Чырыча "Вёска Глініца", В. Целеша "Партрэт паэта Пятра Сакола (Масальскага)", Я. Чарнякевіча "Жнівень".

Аб'ём "Світанка" невялікі. Ды галоўнае, што з'явілася яшчэ адно беларускамоўнае выданне ў блізкім замежжы.

# ЧУЖЫМІ ВАЧЫМА

Група замежных кінадакументалістаў з Ірландыі, Англіі і Канады прыбыла ў нашу рэспубліку з мэтай зняць дакументальны фільм аб выніках чарнобыльскай катастрофы ў Беларусі.

Ірландскі бок, які ўзяўся фінансаваць гэты кінасерыял, думае затраціць 90 тысяч долараў. Дарэчы, права на паказ пакуль яшчэ не створанага фільма ўжо купілі ў ЗША, Канадзе і Швецыі. Здымкі пройдуць у Гомельскай і Магілёўскай абласцях.



# "ВЯСНА КРАСНА НА ЎВЕСЬ СВЕТ"

**Гуканне вясны — свята традыцыйнае. Але нешта не помніцца, каб яно супадала з Вялікаднем. І таму ў арганізатараў яго ў Мінску былі апасенні, што народ застанецца дома, у паркі і скверы не пойдзе. Апасенні не спраўдзіліся. І тысячы гараджан прыйшлі на гуканне вясны. Шматлікія калектывы мастацкай самадзейнасці падрыхтавалі цікавыя нумары. Гучалі і валачобныя, і веснавыя, і жартоўныя песні, цешылі маскамі клоуны.**

**Вясновы настрой перадаўся ўсім. І жадаючых выступіць з песняй ці цікавым жартам хапіла на некалькі гадзін, пакуль ішло свята.**

**Канцэрты змяняліся народнымі гуляннямі. У парках імя Чэлюскінцаў, імя Горкага не забыліся і пра Вялікдзень: традыцыйныя "біткі" захапілі і дарослых, і дзяцей. І не бяда, што нехта забыўся дома фарбаванае яйка, яго можна было купіць і ў месцах правядзення свята. У час спартыўна-пацяшальных спаборніцтваў шматлікія гледачы цёпла віталі шчаслівчыкаў, якія выйгравалі розныя прызы. Экспанаваліся і прадаваліся работы народнай студыі самадзейных мастакоў. Тут і карціны, і кошыкі, і вышыванкі...**

**Апагей свята — спальванне зімы. Чучала зімы падносіцца да вогнішча, і яно ўспыхвае яркім полымем: бывай, зімачка-зіма! Ты нам ужо надакучыла. Сардэчна запрашаем вясну красную... Свята працягвалася доўга, яшчэ і пры электрычных ліхтарах. Яно прайшло ў многіх гарадах Беларусі.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час свята.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 634. Падпісана на друку 28.04.1993.